**Ірына Хадарэнка**

# ПАДРУЧНІК ПАРТЫЗАНКІ



*Прысвячаю маім продкам,*

*якія бралі ўдзел у партызанскім руху*

*і актыўна змагаліся з несправядлівасцю*

***

Мы не з гіпсу, мы – з камення,

Мы – з жалеза, мы – са сталі,

Нас кавалі у пламенні,

Каб мацнейшымі мы сталі.

Цяпер, братцы, мы з граніту,

Душа наша з дынаміту,

Рука цвёрда, грудзь акута,

Пара, братцы, парваць путы!

*(c) Цётка (Алаіза Пашкевіч)*

***

- Каго любіш?
- Беларусь.
- То трымайся.

*(c) З народнага*

## *ГІСТАРЫЧНЫЯ ПЕРАДУМОВЫ ПАРТЫЗАНШЧЫНЫ*

Гісторыя развіцця айчыннага партызанскага руху пачынаецца задоўга да часоў Другой сусветнай вайны, калі ён набыў рэгулярны і ўсеабдымны маштаб, міжволі становячыся адным з агульна-прызнаных маркераў беларускай нацыі.

Яшчэ ў сярэдзіне XVII стагоддзя, падчас акупацыі беларускіх земляў войскам Масковіі, названай Крывавым патопам, нашыя продкі зведалі нямала гора ад агрэсіўных суседзяў. Навалач з Усходу адбірала ў мясцовых жыхароў грошы і зброю, коней і хлеб, насенне і кухоннае начынне, гвалціла і забівала тутэйшы люд. У адказ на гэта летам 1654 года на Смаленшчыне, Мсціслаўшчыне, Полаччыне, Магілёўшчыне, Віцебшчыне сталі ўзнікаць сялянскія групы самаабароны, а па сутнасці – першыя партызанскія атрады. Як сведчаць гісторыкі, атрады налічвалі ад некалькіх соцень да трох тысяч чалавек, былі ўзброены халоднай і агнястрэльнай зброяй, мелі сцягі. Партызаны (паводле тагачаснай маскоўскай тэрміналогіі – “шышы”) не толькі атакавалі захопнікаў, але і неслі пагрозу тым калабарантам, якія прысягалі маскоўскаму цару.

Адзін з першых такіх атрадаў быў створаны пад кіраўніцтвам Яўхіма Патапава ў Мсціслаўскім павеце, які, паводле існуючых звестак, пачаў выступаць супраць ворагаў яшчэ ў перыяд так званай Смаленскай вайны 1632-1634 гг. Ужо на другі дзень пасля падыходу маскоўскіх войскаў да Мсціслава, а менавіта 18 ліпеня 1654 года,

Патапаў «сабраўся з многімі людзьмі», напаў на маскоўскіх ратнікаў і ўчыніў ім страты. Вядома, што атрад Патапава меў сваю харугву, дасланую Радзівілам, у ім ваявала больш за 3 тысячы сялян і 15 шляхцічаў. Вясной 1655 года актыўнасць "шышоў" набыла такі размах, што дзеля нейтралізацыі яе з Масковіі быў дасланы атрад карнікаў пад кіраўніцтвам ваяводы Шчарбатава. У чэрвені 1655-га Яўхім Патапаў, разам з паплечнікамі (Кажахоўскім, Кісялёнкам, Іўлеевым, Мілюціным і інш.) патрапіў у палон да маскоўскага ваяводы Сонцава.

Адметную партызанскую актыўнасць прадэманстравалі жыхары Магілёўшчыны на шостым годзе акупацыі, калі мясцовае войска разбіла маскавітаў на рацэ Басі. Пазней, пасля таго як стральцы абрабавалі на рынку магілеўскіх пякарак, цярпенне ў магілеўцаў скончылася. Паводле загаду магістрата, жыхары, у дамах якіх жылі маскавіты, выкруцілі з іхніх стрэльбаў крэмні. Мужчыны даставалі са сховаў падрыхтаваную загадзя зброю. У шматтысячным горадзе не знайшлося ніводнага здрадніка, і захопнікі да апошняй хвіліны нічога не ведалі. 1 лютага 1661 года бурмістр Язэп Левановіч, што кіраваў падрыхтоўкай паўстання, з крыкам "Пара!" выхапіў шаблю і кінуўся на стральцоў. Паўстанцам дапамагалі вызваленыя з астрога палонныя жаўнеры. За некалькі гадзін царскі гарнізон быў знішчаны самаарганізаваным партызанскім атрадам. Ад шабляў і куляў магілеўскіх мсціўцаў загінула каля сямі тысяч захопнікаў. У гонар паўстання Магілеву быў нададзены новы герб:

тры вежы на блакітнай асноведзі і збройны рыцар у браме пад выяваю “Пагоні”.

Новыя этапы развіцця партызаншчыны адбыліся падчас паўстанняў пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі і Кастуся Каліноўскага. У чарговы раз нашчадкі славутых ліцвінаў баранілі сваю зямлю ад усходніх агрэсараў.

Варта адзначыць, што здаўна не толькі мужчыны адважна змагаліся з ворагам, але і жанчыны. Гісторыя захавала для нас імя графіні Эміліі Плятэр, якая вясной 1831 года стварыла і ўзначаліла партызанскі атрад, а таксама была ўганаравана званнем капітана. Між іншым, у яе атрадзе было нямала дзяўчат.

У пачатку мінулага стагоддзя пісьменніца Алаіза Пашкевіч (Цётка) далучылася да арганізацыі рэвалюцыйных гурткоў, напісанню палымяных пракламацый супраць прыгнёту і ўдзелу ў антыдзяржаўных маніфестацыях. Таксама адной з найбольш яскравых падпольшчыц і палітыкаў таго часу была Палута Бадунова, растраляная падчас хвалі рэпрэсій ў 1938 годзе.

У перыяд Другой сусветнай вайны ў партызанскім руху, толькі згодна з афіцыйнымі падлікамі, прымала ўдзел агулам каля 375 тысяч жыхароў Беларусі, шостую частку з якіх складалі жанчыны.

Прага адстойваць свой гонар і смела выступаць супраць гвалту адрадзілася ў новай форме падчас чарговых пратэстаў, што распачаліся летам 2020-га. Нечакана аказалася, што ў пратэстоўцаў, якія не жадаюць мірыцца з дыктатурай, пераважае жаночае аблічча.

Зразумела, што ніхто мэтанакіравана не вучыў іх, як бараніць сябе і супрацьстаяць бандытызму. Ніхто нават як след не тлумачыў людзям, з чым ім давядзецца сутыкнуцца...

Нягледзячы на тое, што сучасны пратэстны рух у Беларусі пачаў акрэсліваецца яшчэ з 90-х гадоў мінулага стагоддзя, большасць тых, хто апошнім часам паўстаў супраць бандытаў і тэрарыстаў, аказалася не падрыхтаванай да доўгатэрміновай барацьбы. Да таго ж, у насельніцтва адсутнічала магчымасць весці ўзброеннае супрацьстаянне і перацягнуць на свой бок прадстаўнікоў сілавых структур, якія па-ранейшаму працягваюць садзейнічаць панаванню хунты ці нават з'яўляюцца ейнай часткай.

Сучасны свет вымагае сучасных формаў рашэнняў праблем. Тыя метады і падыходы, якімі кіраваліся партызаны і падпольшчыкі тры-чатыры стагоддзі таму, відавочна не будуць цалкам адпавядаць рэчаіснасці XXI стагоддзя, у якім перавага аддаецца гібрыдным войнам. Разам з тым, чалавечая сутнасць застаецца амаль нязменнай, нягледзячы на змены эпох, таму карысна ўлічваць досвед папярэднікаў.

Тыповыя памылкі змагання з акупацыйнай уладай і рэжымным гвалтам у гарадскіх умовах дэталёва разглядаў яшчэ славуты рэвалюцыянер Карлас Марыгела ў кнізе "Бразільская гэрылья". Вось як ён акрэслівае сем грахоў гарадскога партызана:

1) Першым грахом гарадскога партызана з'яўляецца ня-вопытнасць. Асліплены гэтым грахом, гарадскі партызан ду-

мае, што вораг дурны. Ён недаацэньвае эфектыўнасць выведкі супрацьлеглага боку, мяркуе, што ўсё не так ужо і складана. З-за сваёй недасведчанасці гарадскі партызан можа таксама і пераацаніць сілы ворага, думаючы, што ён мацней за тое, што ёсць на самай справе. Дазваляючы абдурыць сябе гэтым меркаваннем, гарадскі партызан становіцца запалоханым, знаходзіцца ў небяспечнай нерашучасці, паралізаваным і пазбаўленым смеласці.

2) Другі грэх гарадскога партызана – гэта хвальба адносна акцый, якія ён правёў, распавядаючы пра іх усім, каму заўгодна, і ігнаруючы пытанні інфармацыйнай бяспекі.

3) Трэці грэх гарадскога партызана – ганарыстасць. Гарадскі партызан спрабуе здзяйсняць пэўную равалюцыйную актыўнасць ў горадзе, але разам з тым не турбуецца адносна ўзнікнення і замацавання партызан у сельскіх раёнах і на перыферыі. Апанаваны поспехам, ён ладзіць акцыю, якую разглядае як вырашальную, і выдаткоўвае на гэта ўсе сілы і рэсурсы арганізацыі. Але нельга заўчасна святкаваць перамогу, бо мы заўсёды можам зрабіць фатальную памылку, якая дазволіць ворагу скарыць нас некалькімі вырашальнымі ўдарамі.

4) Чацвёрты грэх гарадскога партызана заключаецца ў перабольшванні ўласных сілаў і ажыццяўленні праектаў, на якія яму гэтых сілаў не хапае і для якіх ён яшчэ не мае адпаведна выпрацаванай інфраструктуры.

5) Пяты грэх гарадскога партызана - заўчасная акцыя. Нярэдка гарадскі партызан губляе цярпенне, у яго адбываецца нярвовы зрыў, ён не вытрымлівае столькі часу, колькі неабходна, і неадкладна кідаецца здзяйсняць дзеянні, якія ў выніку прыносяць толькі няўдачу.

6) Шосты грэх гарадскога партызана выяўляецца ў нападзе на ворага ў момант найбольшага раздражнення.

7) Сёмы грэх гарадскога партызана заключаецца ў хаатычных імправізацыях, а не планавым правядзенні акцый.

Зірніце на характар масавага беларускага пратэсту ў 2020-2021 гг. і вы пераканаецеся, што яму ўласцівыя амаль усе вышэйзгаданыя хібы. Наіўны разлік на хуткую перамогу з мінімальнымі выдаткамі і без дакладнага плану дзеянняў у выніку прывёў да катастрафічнага ўзмацнення рэпрэсій, тысячаў арыштаў і сотняў калецтваў удзельнікаў мітынгаў, хвалі страшэнных катаванняў затрыманых, і, што найгорш, да смерці шэрага нявінных грамадзян.

У ліберальных СМІ ўсяляк раскручваецца меркаванне, што толькі негвалтоўны супраціў з'яўляецца найбольш эфектыўным у барацьбе з дыктатурай, і што нібыта актыўнага ўдзелу ў пратэстах 3,5% ад агульнай колькасці насельніцтва ўжо дастаткова, каб перамагчы рэжым. Насамрэч гэтыя модныя ідэалагемы абвяргаюцца гістарычнымі фактамі.

Вядома, што негвалтоўны супраціў не дапамог вырашыць праблемы ні з нацысцкім рэжымам у Германіі, ні ў барацьбе супраць А. Пінацэта, С. Хусэйна, М. Кадафі, Н. Мадура і шмат каго яшчэ.

Больш за тое – негвалтоўны супраціў вельмі часта суправаджаецца значнай колькасцю ахвяр сярод пратэстоўцаў. Таму разглядаць такую форму барацьбы варта ў спалучэнні з іншымі, значна менш прывабнымі з пункту гледжання пацыфізму, сродкамі.

Мы не верым ў тое, што пры поўным калапсе прававой сістэмы перамагчы дыктатарскі рэжым можна выключна законнымі метадамі, і не падзяляем мазахісцкія ідэі наконт таго, што “няхай лепш пральецца наша кроў, а не кроў ворага” і “няхай загінуць сотні такіх, як я, але запануе ісціна” (Махатма Гандзі), або “калі цябе ўдарылі па правай шчацэ – паднясі і левую” (Евангелле ад Матфея).

Але адначасова нам абсалютна не хочацца, каб кагосьці арыштоўвалі і падвяргалі здзеку за нібыта экстрэмісцкія ўчынкі, таму прынамсі ў дадзенай брашуры мы не будзем даваць парады кшталту таго, якім чынам паралізаваць рух грамадскага транспарту, паліць міліцэйскія машыны і помсціць карнікам (гэта, пры жаданні, вы зможаце знайсці ў іншых інфармацыйных крыніцах). Бо наша мэта на бягучым этапе – падтрымаць людзей у іх законным праве бараніць сябе, сваю годнасць і свае правы.

Як справядліва казаў Гётэ, толькі той варты жыцця і свабоды, хто кожны дзень ідзе за іх на бой.  Гэта азначае, што немагчыма, змагаючыся з дыктатурай, у пэўны момант сесці на пянёк, каб з’есці піражок. За гэты момант вораг можна зрабіць такую ракіроўку, якая скасуе ўсе папярэднія дасягненні і здабыткі.

Дзеля чаго далучацца да барацьбы, калі тутэйшая большасць прызвычаілася пасіўна зносіць знявагу і стагоддзямі прыстасоўвалася да абставінаў? Па-першае, ва ўсе эпохі сацыяльныя зрухі ў грамадстве адбываліся дзякуючы актыўнай пасіянарнай меньшасці (10-12%), якая не баялася браць на сябе адказнасць. Абывацелі будуць чакаць, пакуль нехта падасць ім прыклад, як дзейнічаць. Такім прыкладам можаце стаць вы самі. Па-другое, ніхто не абавязаны слепа давяраць прапаведнікам рознага кшталту і ісці за няўцямнымі правадырамі, якія самі дакладна не ведаюць, куды скіраваны іхні шлях, бо людзі абараняюць найперш сваю годнасць і права "людзьмі звацца", а гэта каштуе дорага. І па-трэцяе, незалежна ад таго, да якой канфесіі вы належыце (або не належыце наогул), паўтарайце сам-насам словы з "Патрыятычнага малітвенніка" Вацлава Ластоўскага: "І памяць аб страчанай намі свабодзе свеціць нам у паняволенні нашым, і няволя не пагасіла ў нас жадання свабоды".

На пэўным этапе можна міжволі прыйсці да думкі, што ўся барацьба мізэрная і асабіста вы ўжо не здолееце супрацьпаставіць пачварнай Сістэме нічога значнага, тады ў якасці матыватара на дапамогу прыходзіць старая афрыканская прыказка: "Калі вам падаецца, што ад вашых намаганняў нічога не залежыць, паспрабуйце заснуць у зачыненым пакоі, дзе лётае камар".

**Самаабарона, салідарнасць, супраціў** – вось тыя "тры чарапахі", на якіх у першую чаргу мусіць трымацца грамадзянская супольнасць Беларусі ў цяперашніх умовах.

## ДЫК ХТО НАСАМРЭЧ ВОРАГІ?

Падзеі апошняга часу ў Беларусі разам з надзвычайна вялікай колькасцю крымінальных справаў, заведзеных у краіне нібыта за экстрэмізм і тэрарызм, вымушаюць звярнуцца да пераасэнсавання гэтых паняццяў.

Калі экстрэмізм звычайна разумеецца як схільнасць да радыкальных поглядаў і дзеянняў, якія супярэчаць агульнапрызнаным нормам соцыўму, дык тэрарызмам адпаведна лічацца найбольш небяспечныя формы выяўлення экстрэмізму. Пры гэтым, аднак, не звяртаецца ўвагі на тое, што ва ўмовах аўтарытарных і таталітарных рэжымаў, своеасаблівая *манаполія на тэрарызм* як прэвентыўны гвалтоўны сродак запалохвання грамадства, пераходзіць менавіта да дзяржаўных органаў.

Традыцыйна сцвярджаецца, што дзяржава, у якой пануе, напрыклад, дыктатура, можа здзяйсняць тэрор у дачыненні да грамадзян. Апошнія, у сваю чаргу, могуць учыняць тэрарызм - гвалтоўны рух супрацьстаяння дзяржаўным і сацыяльным інстытутам. Ніжэй мы паспрабуем растлумачыць, чаму падобнае ўспрыманне рэчаў не з’яўляецца аб’ектыўным.

Нягледзячы на тое, што да экстрэмістаў і тэрарыстаў адносяць як асобных індывідаў, так і арганізаваныя групоўкі, усіх іх прынята аб’ядноўваць пад “парасонам” агульных адметнасцяў.

Характэрныя рысы сучаснага тэрарызму:

1) Наяўнасць глыбіннага канфлікту ў сістэме каштоўнасцяў;
2) Дэкларатыўнасць і падкрэсленая дэманстратыўнасць дзеянняў;
3) Апраўданне любых выпадковых і наўмысных ахвяр, звязаных з актамі тэрору.

Разгледзім асобна кожны пункт.

1. У адрозненні ад рэлігійнага тэрарызму, гвалтоўныя дзеянні супрацьлеглых бакоў могуць ажыццяўляцца нават пры наяўнасці падобнай сістэмы каштоўнасцяў. Напрыклад, і адзін, і другі бок усведамляюць незалежнасць краіны як бясспрэчную каштоўнасць. Або – і адзін, і другі бок разумеюць неабходнасць існавання дзеючай сістэмы грамадскага кантролю. Але разам з тым, ва ўмовах прававога дэфолту або вайны, фармальнае выкананне законаў спыняецца. Кожны бок пачынае трактаваць закон як выключнае права сілы. Таму калі нават кіраўнік дзяржавы раптам публічна заяўляе, што “часам бывае не да законаў”, гэта толькі падкрэслівае той факт, што падпарадкаваныя яму дзяржаўныя структуры адмаўляюцца дзейнічаць выключна паводле заканадаўства і міжволі ператвараюцца ў карныя органы. Ва ўмовах фактычнай адсутнасці раздзялення заканадаўчай, выканаўчай і судовай уладаў, уся вертыкаль пачынае працаваць на выкананне загадаў узурпатара, у тым ліку і тых, якія знаходзяцца па-за прававымі межамі. Дык ці з’яўляецца ігнараванне злачынных загадаў таксама злачынствам? Не. Значна часцей адбываецца наадварот – выкананне незаконных загадаў звыш з’яўляецца

злачыннай практыкай. Адпаведна, паўстанне супраць бяспраўя (у тым ліку і з выкарыстаннем гвалтоўных метадаў) – пачынае станавіцца амаль адзінай магчымасцю адстойвання правоў.

2. Для тэрарыстаў вельмі важна дасягненне максімальнага розгаласу ў грамадстве пасля здзяйснення гвалтоўных актаў. Такім чынам падкрэсліваецца дэклараванне пэўнай ідэалогіі, супрацьстаянне якой будзе карацца гвалтам. Дык хто ва ўмовах дыктатуры здзяйсняе экстрэмісцкія перфомансы з наступным шырокім асвятленнем у СМІ і рэгулярнае тэрарыстычнае запалохванне грамадзян – канспіратыўныя суполкі нешматлікіх партызан або дзяржаўныя структуры, якія імкнуцца прадухіліць маральныя хістанні абывацеляў і ўтрымаць уладу любым, нават самым брутальным коштам? Адказ падаецца відавочным.
3. У адрозненні ад асобных або аб’яднаных у разнастайныя супольнасці змагароў з дыктатурай і аўтарытарызмам, для якіх галоўнае – максімальна пазбегнуць ахвяр пры магчымым супрацьстаянні, для самога рэжыму і ягоных служак каштоўнасць чалавечага жыцця цалкам абясцэньваецца ў параўнанні з магчымасцю захавання ўлады. Сістэма можа рэальна здзейсніць або прынамсі інсцэніраваць што заўгодна (змову, замах, узброены напад, тэракт з ахвярамі) толькі для таго, каб пратэставаць свае сілавыя механізмы на трываласць, не кажучы ўжо пра тое, каб узмацніць пры дапамозе прымусу свае пазіцыі.

Памылковасць ва ўспрыманні тэрарызму ў таталітарных грамадствах і звядзення яго да выключна недзяржаўных праяваў гвалтоўнай барацьбы, прывялі да таго, што міжнародная супольнасць дагэтуль адмаўляецца прызнаваць тэрарыстычнымі такія арганізацыі, як АМАП (Аддзел міліцыі асаблівага прызначэння) і ГУБАЗіК (Галоўнае ўпраўленне па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй) толькі на той падставе, што яны дэ-юрэ з'яўляюцца *дзяржаўнымі* арганізацыямі ў Рэспубліцы Беларусь, і ігнаруючы тое, што іх дзейнасць дэ-факта можа быць прыроўненая да тэрарыстычнай.

Нельга забываць і пра тое, што формы пратэсту супраць тыраніі могуць быць як негвалтоўнымі (часта некарэктна называюцца мірнымі), так і гвалтоўнымі (што разам з тым зусім не прадугледжвае неабходнасці наяўнасці ахвяраў сярод насельніцтва). Відавочна, што ва ўмовах, фактычна набліжаных да вайны, негвалтоўныя метады пратэсту застаюцца формай праявы грамадскай нязгоды, а не эфектыўным сродкам барацьбы.

У большасці цывілізаваных краінаў тэрарыстам лічыцца індывід, які планаваў або ўжо здзейсніў замах на выпадковых звычайных грамадзян або свядома абраных вядомых публічных асобаў з прымяненнем зброі, выбуховых рэчаў, транспартных сродкаў, атруты, узяцця закладнікаў і г.д. Ліквідацыя такога індывіда з мэтай прадухілення наступстваў або пасля ажыццяўлення ім злачынства тэрарызмам, адпаведна, не лічыцца.

Але зірнем на шэраг аўтарытарных і таталітарных дзяржаваў. Групоўкі і індывіды, якія запалохваюць насельніцтва пры дапамозе зброі і сілы, выкрадаюць, катуюць, знявольваюць і забіваюць нявінных грамадзян, - гэта часцей за ўсё не прадстаўнікі крыміналу ў звычайным разуменні, а менавіта супрацоўнікі дзяржаўных структур, дзейнасць якіх санкцыянавана звыш і выходзіць за межы прававой адказнасці. Фактычна такія групоўкі дзейнічаюць як паліцаі падчас Другой сусветнай вайны і маюць “карт-бланш” на гвалт у стасунках з мірным насельніцтвам.

Ва ўмовах перакуленага з ног на галаву свету дыктатуры, звычайныя беларусы, якія маюць смеласць не падзяляць пастулаты афіцыйнай ідэалогіі і выступаюць супраць беззаконня, аўтаматычна залічваюцца да экстрэмістаў і тэрарыстаў. Абвінавачванні падобнага кшталту высоўваюцца зараз у дачыненні да каго заўгодна, як і падчас сталінскіх рэпрэсій у СССР практыкавалася ставіць таўро “ворагаў народа”на асобных грамадзянах.

Відавочна, што сёння ў Беларусі існуе своеасаблівая сістэма дзяржаўнага тэрарызму, якая, дарэчы, цалкам адпавядае прынцыпам Жэнеўскай Дэкларацыі аб тэрарызме («The Geneva Declaration on Terrorism») (1987). Таму найважнейшай задачай міжнароднай супольнасці ў бягучы момант павінна стаць асэнсаванне гэтай акалічнасці і прыняцце адпаведных мер з мэтай падтрымкі і шматбаковага спрыяння вызваленню грамадскіх актывістаў, неабгрунтавана абвінавачаных нелігітымнай беларускай уладай у экстрэмізме і тэрарызме.

Аднак, яшчэ больш за экстрэмізм і тэрарызм уладары сучаснага свету баяцца любых праяваў нацыяналізму. Апошні наўмысна ўзводзіцца на адну ступень з нацызмам, шавінізмам і фашызмам для таго, каб навязаць людзям штучную ідэалогію ўсеагульнага падпарадкавання масавым маніпуляцыям над свядомасцю, спажывальніцтва, прыстасавальніцтва, нівеляванне пасіянарнасці.

На гэтую вуду папаліся і шматлікія айчынныя інтэлектуалы, якія пачалі займацца актыўным прасоўваннем постмадэрнісцкай лухты featured рознага кштату замест таго, каб падсілкоўваць моцна аслабленую праз расійскі каланіялізм і савецкае цкаванне Беларушчыну.

Той, хто хоча адрэзаць кветкі ад карэнняў, каб на кароткі перыяд упрыгожыць сваё жытло, клапоціцца выключна пра сабе, а не пра кветкі. Таму памятайма, што сцвярджалі бацькі нашай нацыі.

Вацлаў Ластоўскі: “Беларус павінен любіць свой край, сваю мову і не выракацца іх. Павінен дбаць, каб у беларускім краі развіваўся дабрабыт, беларуская культура, і каб народ увесь быў шчаслівым. Для дабра свайго народу і краю беларус павінен быць гатовым на найвялікшыя ахвяры, нават аддаць жыццё”.

Васіль Быкаў: “Нацыяналізм вялікай нацыі непазбежна перараджаецца ў шывінізм і імперыялізм, а нацыяналізм малой нацыі, якім бы ён ні быў, накіраваны перш за ўсё на выжыванне сваёй нацыі сярод іншых”.

Рыгор Барадулін: “Шчыры нацыяналіст перад сумленнем чысты”.

## *САМААБАРОНА: БАЗАВЫЯ ПРЫНЦЫПЫ*

Як сцвярджае мудрае індзейскае выслоўе, калі ты адчуў, што скачаш на мёртвым кані, – злязай. Іншымі словамі, калі нейкія метады барацьбы на працягу досыць доўгага часу выявілі сваю неэфектыўнасць, трэба іх змяняць.

Беларусы (асабліва жанчыны) ўжо напоўніцу паспелі прадэманстраваць усяму свету, якія яны прыгожыя і крэатыўныя. Зараз найдыйшла пара паказаць іншыя рысы – волю, смеласць, рашучасць і непахіснасць духу ў барацьбе за свабоду.

Удзел у мірных маніфестацыях – гэта добрая форма выказвання нязгоды з існуючым становішчам, але сам па сабе такі пратэст не прыводзіць да змены ўлады. Больш за тое, удзел у мітынгах і шэсцях з вялікай верагоднасцю можа скончыцца гвалтам і арыштам. Браць удзел у такіх акцыях ці не – вы мусіце вырашыць самастойна, але адначасовы трэба цалкам разумець магчымыя наступствы не толькі асабіста для вас, але і для вашых блізкіх і нават хатніх гадаванцаў, якіх нельга надоўга пакідаць без нагляду.

Барацьба з дыктатурай – гэта не легкадумныя праменады на высокіх абцасах у модных сукенках і макіяжам а-ля для часопіса “Vogue”. Такімі пабачыць вас будуць вельмі радыя медыйшчыкі, а таксама паслугачы рэжыму, для якіх пратэстоўцы незалежна ад полу ўспрымаюцца на ўзроўні смецця, якое трэба прыбіраць.

Сапраўдная барацьба – гэта сіла, боль, слёзы, злосць і гатоўнасць супрацьстаяць ворагу замест таго, каб дарыць яму кветачкі.

Ідучы на мітынг, неабходна мець зручную вопратку і абутак, які б дазволіў вам у выпадку неабходнасці падаць на зямлю, свабодна варушыць рукамі і нагамі, а галоўнае - хутка бегчы. Калі мітынг мае верагоднасць зацягнуцца, не залішнім будзе начапіць памперс для дарослых, бо дабрацца да прыбіральні можа быць складана. Для сувязі лепш выкарыстоўваць стары кнопкавы тэлефон, а не андроід або айфон. Неабходна мець пры сабе пашпарт або іншы дакумент ідэнтыфікацыі асобы. Замест торбы трэба ўзяць заплечнік з рэчамі першай неабходнасці на выпадак затрымання. Гэта, прынамсі: бутэлька пітной вады, аптэчка, маска для твару, маска для вачэй, зубная паста і шчотка, грэбень, гумка для валасоў, гігіенічныя сродкі (у тым ліку пракладкі, мыла, санітайзер), сурвэткі (папяровыя і вільготныя), сподняе і цёплы швэдар.

Паводле заканадаўства, аказанне супраціву супрацоўнікам міліцыі пры арышце ўскладняе становішча затрыманага. Разам з тым, калі на вас раптоўна нападаюць незнаёмыя ў балаклавах, без прадстаўлення свайго імя, службовай пасады і нагоды затрымання, тады мае месца сапраўдны бандытызм, так што галоўныя задачы ў дадзенай сітуацыі – пастарацца максімальна пазбегнуць траўмаў і не даць сябе зняволіць. Самае простае – любымі спосабамі выслізнуць з рук тых, хто ладзіць хапун, і спрабаваць збегчы.

У ідэале, каб засвоіць базавыя прынцыпы самаабароны, вам спатрэбіцца ўвесь час падтрымліваць сябе ў добрай фізічнай форме і прынамсі некалькі месяцаў інтэнсіўна наведваць адпаведныя курсы.

Тым не менш, некаторая карысная інфармацыя з гэтай сферы (а менавіта - веданне анатоміі і хаця б некалькіх баявых прыёмаў) можа дапамагчы вам не разгубіцца ў цяжкай сітуацыі, бо рызыка сутыкнуцца з нападам існуе нават тады, калі вы проста выходзіце ў краму за прадуктамі. На месцы агрэсара можа аказацца і п’яніца з ашчэпкам бутэлькі, і АМАПавец з дручком.

Найперш трэба памятаць пра асноўныя болевыя кропкі на целе чалавека, адлюстраваныя на малюнку ніжэй.



Істоты, якія здзяйсняюць напады на людзей падчас мітынгаў, часцей за ўсё выдатна фізічна падрыхтаваныя, адмыслова экіпіраваныя і хаваюць свае твары.

Супрацьстаяць тым, хто значна пераўзыходзіць вас па моцы, вельмі складана, але магчыма. Паводле статыстыкі, паспяховая самаабарона пераважна залежыць ад маральнай падрыхтоўкі да яе, а не ад фізічнай сілы.

Галоўны прынцып, якога прытрымліваўся ў сваёй жыццядзейнасці знакаміты майстра баявых мастацтваў Брус Лі, гучыць так: “Мы пачынаем атаку пазней за праціўніка, а заканчваем раней за яго”. Інакш кажучы, наша мэта – не распачынаць канфлікт, а натуральным чынам бараніць сябе, не цураючыся пры гэтым і не надта гуманных спосабаў, бо вы нарадзіліся зусім не для таго, каб станавіцца ахвярай.

Нават калі ў вас ёсць папярэдні досвед у галіне баявых мастацтваў і вы рэгулярна наведваеце фітнэс-клуб, ва ўмовах вулічнай дракі ўсе папярэднія навыкі вядзення бойкі паводле этычнага комплексу могуць аказацца непрыдатнымі. У прыватнасці, вы наўрад ці здолееце зрабіць удар галавой, ніколі не практыкуючы гэта раней і тым больш, калі ваш праціўнік значна вышэй за вас.  А вось актыўна карыстацца рукамі, нагамі, зубамі і пазногцямі, адбіваючыся ад злодзея, у той ці іншай ступені зможа кожны.

Пазногці могуць дапамагчы ў тым выпадку, калі яны не надта вялікага памеру, - тады імі можна падрапаць твар ці нават ударыць

у вока гвалтаўніку. Доўгія ж пазногці будуць ствараць перашкоду – і з-за таго, што іх лёгка зламаць, і таму, што з такімі кіпцюрамі вы наўрад ці зможаце ўдала ажыццявіць тое, пра што спяваў легендарны Віктар Цой, – “мая далонь ператварылася ў кулак”.

Укус – адзін з найбольш простых і разам з тым досыць балючых прыёмаў уздзеяння на праціўніка. Укусы за горла (кадык), шыю ў раёне соннай артэрыі, верхнюю частку вуха, нос і пальцы могуць збянтэжыць нападніка і даць вам магчымасць выйграць крыху часу, каб перайсці да больш моцных формаў самаабароны.

Часцей за ўсё пры самаабароне мы інстынктыўна выкарыстоўваем рукі. Удары рукамі могуць быць розных відаў: адным пальцам (ківун); двума разведзенымі ўбок пальцамі (“відэлец” з ківуна і даўгая); пальцамі, складзенымі разам у выглядзе дзюбы; удар вялікім пальцам (пястуком), прыціснутым паверх складзеных астатніх; удар кончыкамі пальцаў, сціснутымі ў выглядзе прамой далоні; удар прыдалоннем; удар кулаком і г.д. Яны падыходзяць для таго, каб пацэліць у вочы, вусны, горла, скіўцу, пад рабрыну, у пахвіну і сонечнае спляценне.



Для таго, каб хутка вывесці праціўніка са стану раўнавагі, можна з усяе моцы ляснуць абедзьвюма далонямі па ягоных вушах. Такі ўдар можа спавадаваць пашкоджанне барабанных перапонак.

Рэзкі ўдар рубам далоні ўпоперак горла можа выклікаць болевы шок і пашкоджанне трахеі, а ўдар у месца, дзе праходзіць сонная артэрыя, - мускульны спазм і страту прытомнасці. Яшчэ больш небяспечным для агрэсара з’яўляецца ўдар кулаком або косткай півуна (указальнага пальца) ў скронь. Калі ж нападнік вышэй ростам, можна спрабаваць зрабіць гэта локцем.

Наогул, удары локцямі не вітаюцца ў практыцы большасці ўсходніх адзінаборстваў, аднак могуць аказацца надзвычай карыснымі ў вулічных умовах. Локці дапамогуць вам не толькі правільна стаяць у счэпцы разам з іншымі ўдзельнікамі мітынгаў, але і эфектыўна адбівацца ад бандытаў. Асноўныя віды ўдараў локцямі наступныя: знізу ўверх у кірунку сківіцы або сонечнага спляцення; зверху ўніз (калі праціўнік нахілены і вы хочаце пацэліць у галаву, шыю, плячо або пазваночнік); удар назад з мэтай адштурхнуць нападніка; бакавы ўдар (выконваецца з блізкай дыстанцыі, як на малюнку ніжэй).



Адбіваючыся нагамі, часта ўжываецца калена і каленная рэпка. Звычайна выкарыстоўваюцца ўдары: знізу ўверх, знізу ўверх і ўбок, знізу па дыяганалі звонку ўнутр і нарэшце кругавы, знутры вонкі. Пры гэтым неабходна заняць устойлівую пазіцыю, трымаць рукі перад сабой, напружыць мышцы спіны і жывата, а таксама дзейнічаць хутка, прадухіляючы рэакцыю праціўніка.

Удар у пахвіну каленам, ступнёй або кулаком трэба ўжываць асцярожна, бо калі агрэсар вельмі значна пераважае вас па фізічных параметрах, такая форма самаабароны можа толькі больш раззлаваць яго і нанесці вам яшчэ мацнейшы ўдар у адказ.

Больш простыя формы ўдараў нагамі – пад рэпку, па галёнцы і пяткай па верхняй частцы ступні. Пры гэтым ваш абутак мусіць быць досыць жорсткім і яшчэ лепш, калі з масіўнай падэшвай. Старайцеся не цэліць у кропкі, што знаходзяцца вышэй жывата, калі толькі ў вас няма хаця б чырвонага паса па таэквандо або каратэ. Па-першае, больш спрытны праціўнік зможа схапіць вас за нагу, па-другое, страціўшы раўнавагу або скіраваўшы ўдар няправільна, вы падвышаеце рызыку атрымаць сур’ёзныя траўмы.



Ці варта мець у заплечніку электрашокер, газавы балончык, шыла або нож – цяжка сказаць адназначна. На жаль, не кожныя сродкі абароны могуць дапамагчы нам, калі мы не ў стане адпаведна і хутка іх ужыць. А вось пярсцёнкі з выпуклымі паверхнямі зусім не зашкодзяць. Пры пэўных абставінах яны могуць стаць прымітыўным варыянтам зброі (напрыклад, пры ўдары па носе або ў скронь ворага). Доўгія парасоны з вострымі канцамі таксама могуць паслужыць у якасці дручкоў пры адбіванні атакі.

Перад тым, як уступаць у паядынак, памятайце – заўсёды лепей збегчы, чым спрабаваць адолець кагосьці значна мацнейшага і вопытнейшага за вас. Таму клічце на дапамогу, прыцягвайце да сябе ўвагу грамадскасці ўсімі дасяжнымі сродкамі, ну а калі ўжо давялося незнарок патрапіць у лапы да праціўніка – захоўвайце вытрымку і не здавайцеся, бо ў кожнага з нас маецца прыхаваны патэнцыял, здольны актывізавацца ў крытычным становішчы.

Вядома, карыснасць тэарэтычных парад па фізічнай самаабароне ў сціслай форме даволі ўмоўная, асабліва пры адсутнасці адмысловай практыкі. Таму ніжэй узгадайма некаторыя дасяжныя ў свабодным доступе кнігі, што дэталёва апісваюць адпаведныя прыёмы і якія варта займець для самастойнага вывучэння: Хэй Лун, “Дотык цмока. Уразлівыя месцы чалавечага цела”; Анатоль Тарас, “Баявая машына”; Віктар Лялько, “Трактат аб жаночай самаабароне”; Дзмітры Сілоў, “Вялікая кніга па самаабароне для мужчын і жанчын”; Гершон Бен Кэрэн, “Краў-мага. Сістэма ізраільскага рукапашнага бою”.

Паняцце самаабароны не абмяжоўваецца толькі прадухіленнем і рэагаваннем на гіпатэтычныя фізічныя напады. Людзі мусяць шчыльна задбаць аб інфармацыйнай бяспецы і захаванні дадзеных, якія могуць быць выкарыстаны спецслужбамі супраць іх.

У пачатку 80-х гадоў мінулага стагоддзя ў Польшчы быў выдадзены зборнік артыкулаў пад назвай “Малы канспіратар”, дзе змяшчаўся шэраг парадаў для падпольшчыкаў па забеспячэнні бяспекі іхняй жыццядзейнасці. Мноства з выкладзеных там ідэй застаюцца актуальнымі і сёння.

У прыватнасці, велізарная роля адводзіцца наладжванню канспірацыі пры ажыццяўленні знешняй і ўнутранай камунікацыі. Удзельнікам падпольных груповак рэкамендуецца: абмяжоўваць тэлефонныя размовы, якія з лёгкасцю могуць праслухоўвацца; праводзіць сустрэчы не па месцы жыхарства, а на нейтральных тэрыторыях і ў публічных месцах; выкарыстоўваць працу надзейных сувязных і кур’ераў для перадачы звестак; шыфраваць нататкі і ставіць паролі на дакументы, якія захоўваюцца ў камп’ютары; рэгулярна рабіць рэзервовыя копіі дадзеных у зашыфраваным выглядзе і хаваць іх у патаемным схованцы; увесці сістэму адмысловых кадоў для ўваходу ў памяшканне і г.д.

Праца ў падполлі робіць усіх крыху параноікамі, і ў гэтым няма чагосьці незвычайнага. Лепш дадаткова падстрахавацца і даўжэй падрыхтавацца, чым праваліць пратэстную акцыю і ў выніку адправіць безабаронных людзей у логава карнікаў.

## *САЛІДАРНАСЦЬ: БЕГ ПА ГАРЫЗАНТАЛІ*

Падчас надзвычайнай і ўсеабдымнай хвалі рэпрэсій, якая назіралася ў Беларусі з лета 2020 года, мы ўсе адчулі велізарнае ўзмацненне людской салідарнасці, якая праяўлялася самым нечаканым чынам і амаль паўсюдна. Як высветлілася, беларусы могуць не толькі бясконца енчыць і скардзіцца на спрадвечную млявасць, але і ў крытычны момант аб'яднoўвацца для падтрымкі суродзічаў. Старажытная народная традыцыя талакі (якая, паводле этнографа А. Сержпутоўскага, увасабляе сабой калектыўную дапамогу ў выкананні вялікай ці цяжкай справы, непасільнай аднаму сямейству) знайшла ўвасабленне на новым узроўні.

Выклік, які быў кінуты грамадству, прывёў і да пераасэнсавання феномену лідарства, красамоўна паказваючы, што сапраўдныя лідары – не тыя, хто абвясціў сябе такімі падчас сацыяльных калізій, а тыя, хто не баіцца адказнасці, здольны прымаць ўзважаныя рашэнні, які грунтуюцца не на эмоцыях і летуценнях, а на ўмовах рэчаіснасці, і ўрэшце-рэшт тыя, каму людзі давяраюць гэтыя рашэнні ўвасабляць у жыццё і падпарадкоўваюцца паводле іх добрай волі, а не фармальных загадаў і статусаў.

Ад звыклага акумулявання ўладных паўнамоцтваў на верхніх арганізацыйных узроўнях неабходна пераключацца на развіццё гарызантальных сувязяў, стымуляванне ініцыятыўнасці і падсілкоўванне шчыльнага ўзаемадзеяння ўсіх удзельнікаў.

Варта ўзгадаць, што традыцыі мясцовага самакіравання ў выглядзе Магдэбургскага права паспяхова існавалі на беларускіх землях, пачынаючы з XIV ст., аднак пазней пачалі паступова знішчацца  праз палітыку спярша расійскага царызму, потым – савецкай ідэалогіі цэнтралізацыі, і ўрэшце ў найноўшы час – пры аўтарытарным мацаванні вертыкалі ўлады. Азіяцкая дэспатычнасць у кіраванні, якая перапаўзла да нас з Усходу, скасавала шмат станоўчых здабыткаў папярэднікаў, а таксама прывяла да інэртнасці грамадства і схільнасці да пераносу адказнасці на іншых. Інфантыльнае чаканне падтрымкі звонку, вера ў цуды і спадзяванні на нягеглых лідараў, якія не ў стане прапанаваць нават элементарнага плану дзеянняў, у чарговы раз падводзяць да высновы: ніхто не ўратуе народ, апрача яго самога.

Памылкай было б лічыць, што грамадзянская супольнасць у Беларусі нараджаецца толькі зараз. Але менавіта зараз адбываецца яе самаўдасканаленне і ўзмацненне ў самых розных праявах. Як паказвае жыццёвы і прафесійны досвед, найлепшыя ідэі і праекты вельмі часта ажыццяўляюцца або без грошай, або з мінімальным бюджэтам. Але пры гэтым надзвычай важна, каб усе чальцы каманды знаходзіліся ў адной і той жа сістэме каштоўнасцяў. Бо калі для адных важна проста як мага хутчэй змяніць кіраўніка дзяржавы на кагосьці іншага, для другіх – правесці сумленныя выбары без розніцы з якім вынікам, а для трэціх – пабачыць нарэшце сваю радзіму вольнай краінай з арыентацыяй на нацыянальныя традыцыі, а не калоніяй з фармальна

задэклараванай незалежнасцю, дык відавочна, што тры дадзеныя групоўкі будуць канфліктаваць ужо на старце.

Спрабуючы змагацца са старой сістэмай лінейнага падпарадкавання кіраўніцтву, многія лакальныя актывісты пачалі паўтараць старыя памылкі і ствараць структуры з адасобленай купкай людзей на чале, ад рашэнняў якіх залежыць кірунак агульнай дзейнасці, і масоўкай іншых прадстаўнікоў, меркаванні якіх часам наогул застаюцца не пачутымі.

Між тым, у сучасным свеце назіраецца перагляд кіраўнічых мадэляў на карысць пераходу ад жорсткіх іерархічных сістэмаў (“піраміда”) да больш гнуткіх гарызантальных (“сняжынка”).

Цікавы падыход да разумення новых арганізацыйных структур даў бізнэс-кансультант Фрэдэрык Лалу ў кнізе “Адкрываючы арганізацыі будучыні”. Галоўнай адметнасцю арганізацый будучыні, якім дзеля метафарычнасці і ў адпаведнасці з вясёлкавай шкалой надаецца смарагдавы колер, выступае кантраляванае самакіраванне і падабенства да жывых арганізмаў з уласнай унутранай дынамікай.

У тэорыі мэнеджмэнту таксама набывае ўсё большую папулярнасць ідэя стварэння так званых фрактальных арганізацый. Тэрмін “фрактал” прыйшоў да нас з геаметрыі і апісвае структуру, якая пабудавана паводле прынцыпу бясконцага самападабенства на розных узроўнях. Фракталы досыць часта можна сустрэць у прыродзе – гэта, сярод іншага, добра вядомыя ўсім сняжынкі, або,

напрыклад, лісце папаратніку. Арганізацыі будучыні, у падмурку якіх закладзеныя прынцыпы фрактальнасці, значна больш здольныя да адаптацыі да зменлівага асяроддзя і эфектыўнай супрацы з аналагічнымі суседнімі структурамі ў параўнанні са старымі бюракратычнымі арганізацыямі, дзе камунікацыя ажыццяўляецца пераважна па вертыкалі.

Многія згаданыя ў апісанні падобных структур прынцыпы самакіравання могуць быць карыснымі пры стварэнні падпольных ячэек і дваравых суполак, у прыватнасці:

- Кожны можа зрабіць свой унёсак;
- Кожны можа стаць лідарам;
- Ніхто не павінен навязваць іншым сваім волю;
- Вы самі выбіраеце сабе занятак;
- Вы лёгка зможаце стварыць што-небудзь новае на грунце таго, што ўжо зроблена іншымі;
- Дасканаласць перамагае пасрэднасць;
- Вы не мусіце мірыцца з бандытамі і тыранамі.

Наступнай адметнасцю функцыянавання арганізацый у найноўшую эпоху выступае выкананне імі не стандартнага набору зазадзеных функцый, а ажыццяўленне шэрага праектаў. Адпаведна, кожны праект мусіць мець дакладна акрэсленыя: мэту, сукупнасць задач, час выканання, рэсурсы (інфармацыйныя, матэрыяльныя, людскія). Інструменты праектнага мэнеджменту працуюць не толькі ў бізнэсе, але і ў палітыцы, дзе немагчыма дасягнуць істотных змен

у пэўнай галіне без дакладнага вызначэння вышэйзгаданых праектных элементаў.

Вядомы польскі кінарэжысёр Кшыштаф Занусі ў адным з інтэрвью адзначаў, што не бачыць асаблівай розніцы паміж прэзідэнтам і прыбіральшчыцай, бо людзі ім плоцяць грошы і патрабуюць ад іх якаснай працы. Таксама людзі мусяць мець магчымасць выбіраць, каго яны хочуць бачыць у якасці прыбіральшчыцы, а каго – у якасці прэзідэнта.

Асаблівасцю вышэйзгаданых арганізацый найноўшага кшталту з'яўляецца тое, што на розных этапах функцыянавання апошніх і з улікам іх высокай структурнай мабільнасці кожны супрацоўнік можа паспрабаваць сябе ў ролі і прыбіральшчыцы, і прэзідэнта. Толькі ў адрозненні ад камерцыйных фірм і палітычных структур, значная частка працы ў партызанскіх супольнасцях вядзецца на энтузіясцкай падставе з удзелам вялікай колькасці валанцёраў.

З улікам таго, што ўсе мы, паводле канцэпцыі канадскага культуролага М. Маклюэна, цяпер пражываем у глабальнай вёсцы, роля сродкаў камунікацый становіцца дамінуючай ў працэсе ўзаемадзеяння як з бліжэйшымі суседзямі, так і са сваякамі з далёкага замежжа.  Знакамітая ленінская формула "пошта, тэлефон, тэлеграф" даўно заменена на іншую – "тэлебачанне, тэлефон, Інтэрнэт". І таму гэта тое, што ў першую чаргу імкнецца кантраляваць рэжым, і адначасова тое, што неабходна вызваляць з-пад кантроля Сістэмы падпольшчыкам.

Першы крок да мацавання салідарнасці – вашы родныя і блізкія, кола сяброў і аднадумцаў. Мабыць, у асяроддзі кожнага з нас маюцца людзі, што прызвычаіліся ўвесь час прыкрывацца шчытам “я палітыкай не займаюся”, абалваненыя прапагандай, а таксама тыя, хто або з-за інфантылізму і палітычнай неадукаванасці, або з-за схільнасці прымаць жаданае за рэчаіснае, лічаць за сапраўдных змагароў з тыраніяй дзеячаў, якія насамрэч з’яўляюцца сумніўным прадуктам паліттэхнолагаў. Пераконваць такіх людзей заўсёды цяжка, але не ўсе яны безнадзейныя. Неабходна як мага часцей падводзіць іх у дэбатах да пытання, якое задавалі сабе яшчэ старажытныя рымляне: “Cui prodest?” (Каму выгодна?). І вядома, не варта марнаваць час на тых, хто не падзяляе вашых каштоўнасцяў (у прыватнасці, незалежнасць краіны і інш.), таму што менавіта сярод такіх хісткіх/слізкіх асобаў найчасцей будуць трапляцца пацукі, гатовыя зліць дадзеныя аб вашай дзейнасці “кампетэнтным органам”.

Узгадайма, колькі часу мы пражылі ў буйных гарадах, не ведаючы нават імёнаў сваіх суседзяў па лесвічнай пляцоўцы? А між тым, менавіта суседзі змогуць першымі прыйсці на дапамогу ў многіх выпадках, калі гэта не ўдасца зрабіць вашым родным, што жывуць на адлегласці. Паслявыбарныя пратэстныя акцыі і дваравыя імпрэзы паказалі, як, аказваецца, шмат побач з намі цудоўных і цікавых людзей! У сацыяльных сетках сфарміраваліся лакальныя супольнасці, якія дагэтуль дэманструюць сапраўдную моц яднання.

Нягледзячы на тое, што заканадаўства Рэспублікі Беларусь у апошнія дзесяцігоддзі было моцна зменена ў кірунку нівелявання разнастайных формаў мясцовага самакіравання, там дагэтуль захоўваецца опцыя стварэння камітэтаў тэрытарыяльнага грамадскага самакіравання і народных дружын. Рэгістрацыя такіх суполак досыць складаная ў бягучых умовах, але разам з тым прасцейшая за рэгістрацыю грамадскага аб'яднання або партыі. Разам з тым гэта ледзьве не адзіны фармальны сродак ажыццяўлення ціску на ўлады з боку грамадскасці, якім, канешне, нельга абмяжоўвацца ў сітуацыі, калі закон існуе толькі на паперы.

На наступным камунікацыйным узроўні дэлегаты дваравых суполак ствараюць прадстаўніцтвы гарадскіх раёнаў і каардынуюць пратэстную дзейнасць у больш маштабным памеры. Прымаючы да ўвагі, што адміністратары дваравых і раённых чатаў часта падвяргаюцца арыштам, больш бяспечна было б надзяляць падобнымі абавязкамі землякоў, якія знаходзяцца за мяжой.

І ўрэшце, вельмі перспектыўнай падаецца ідэя выбудоўвання прамых сувязяў паміж лакальнымі суполкамі на радзіме і адпаведнымі беларускімі суполкамі за мяжой. Вядома, што беларуская дыяспара неаднародная, але сярод эмігрантаў вельмі шмат тых, хто шчыра перажывае за лёс роднага краю і гатовы дапамагаць як арганізацыйна, так і фінансава. Адраджэнне практыкі гарадоў-пабрацімаў магло б прынесці значную карысць на бягучым этапе.

Возьмем, напрыклад, беларускую супольнасць у амерыканскім Бостане і нашых землякоў у Гародні. Гэтыя людзі, у межах зноў-такі маклюэнаўскай “глабальнай вёсцы”, могуць камунікаваць непасрэдна праз сваіх прадстаўнікоў, абмінаючы розныя афіцыйныя новаспечаныя камітэты і саветы, каэфіцыент карыснага дзення ў якіх пакуль зусім невысокі. Або, скажам, беларускія жыхары польскага Кракава бяруць умоўнае шэфства над нашым Ракавым і дапамагаюць землякам – найперш фінансава, але таксама і інфармацыйна, і нават па-сваяцку (аказанне ўсебаковай падтрымкі – не толькі канкрэтным сем’ям, пацярпелым ад рэпрэсій, але і больш шырока – усім тым, хто сёння не ў стане вырашыць свае праблемы самастойна і не можа атрымаць адпаведную дапамогу ад дзяржавы).

Цяпер час не тых “лідараў”, якія абвясцілі сябе такімі і, ушчыміўшыся ў палітыку, як свіння ў плот, пачалі злоўжываць людскім даверам. Гэта час выпрабавання, калі кожны можа спрабаваць стаць лідарам хаця б на ўзроўні лакальнай супольнасці.

Якасныя зрухі надыйдуць тады, калі мы больш не будзем спадзявацца на нейкую чароўную дапамогу звыш і на тое, што істоты, якія паслядоўна ператвараліся ў пачвар на працягу дзесяцігоддзяў, раптам перастануць быць монстрамі, а будзьма рабіць – без перапынку, крок за крокам, адчуваючы, што масты за спінай ужо спаленыя, і што час, які мы губляем у хістаннях і нерашучасці, незваротны, і што гэты час пры маруднасці і кволасці людзей будзе гуляць супраць іх.

## *СУПРАЦІЎ: ПАТУРАННЕ ЗЛУ ТОЛЬКІ ПАМНАЖАЕ ЯГО*

Яшчэ з часоў Сярэднявечча на еўрапейскім абшары замацавалася права людзей на паўстанне супраць гвалту і прыгнёту. Ius resistendi – адзін з забытых прывілеяў мясцовай шляхты, які можна патлумачыць так: калі ўлада парушае правы народа, паўстанне з’яўляецца сакральным правам і абавязкам гэтага народа і кожнага ягонага прадстаўніка.

Заклікаць людзей змагацца супраць тыраніі выключна законнымі метадамі ў становішчы амаль поўнай дэканструкцыі прававой сістэмы – амаль тое ж, што і выганяць іх ісці безабароннымі і непадрыхтаванымі праз пушчу з галоднымі ваўкамі.

Кожны мусіць усвядоміць, што не варта чакаць цудаў ні ад тых, хто дзесяцігоддзямі мацаваў таталітарную Сістэму сваёй супрацай з ёй, ні ад “вечна заклапочаных” парушэннем правоў чалавека дзеячаў звонку. Як зазначаў кубінскі рэвалюцыянер Чэ Гевара, калі стаміўся – адпачні, але пасля гэтага ты ўжо ніколі не будзеш першым. Рэвалюцыю немагчыма паставіць на паўзу і ўзяць у ёй перапынак, інакш яна ператвараецца ў фікцыю. Больш за тое – не кожны пратэст і не кожная нязгода могуць быць прыроўненымі да рэвалюцыі. Калі змена ўлады не дэкларуецца ў якасці асноўнай мэты пратэстоўцаў – мы маем справу не з рэвалюцыяй, а з нечым іншым.

Штодзённая барацьба не абавязкова мусіць выяўляцца ў выглядзе ўзброеннага супрацьстаяння. Існуе шмат спосабаў супраціву, дасяжных кожнаму з нас. А вось адмова ад супраціву і маўклівы адыход убок пад зручным транспарантам “я – па-за палітыкай” азначае не проста скарэнне перад злачынцамі, але і спрыянне ім.

У адрозненні ад Джына Шарпа, які вылучаў 198 метадаў негвалтоўнай барацьбы з дыктатурай, мы засяродзімся на трох асноўных. У першую чаргу таму, што далёка не ўсё згаданыя ім метады могуць быць дапасаванымі да беларускіх рэалій, а таксама і з-за таго, што некаторыя формы, апісаныя знакамітым ідэолагам “каляровых рэвалюцый”, проста неэфектыўныя або наогул непрацуючыя.

Такім чынам, варта сканцэнтравацца на наступным.

*I) Інфармацыйны супраціў.*

Адным з ключавых падмуркаў таго, што Беларусь апынулася ў сітуацыі глыбокай палітычнай стагнацыі, з'яўляецца празмерная залежнасць ад расійскай не столькі нават рэсурснай базы, сколькі інфармацыйнай прасторы. Тое, што не ўдалося зрабіць штыкамі і зброяй, сістэмна і шматразова вынішчаючы нашу нацыянальную эліту, аказалася магчымым пры дапамозе рускіх папоў (чытай – ідэалагічнай дзейнасці Рускай праваслаўнай царквы), расійскіх прапагандыстаў і зацыкленых на “рускім свеце” настаўнікаў.

Анамальна празмерная засяроджанасць насельніцтва на свеце расійскіх медыяў, гістарычных трактовак нашай уласнай гісторыі, ідэалагічных кірункаў знешняй і ўнутранай палітыкі, культурных

прадуктаў, а таксама запазычванне шматлікіх патэрнаў у паводзінах і рэакцыях, у спалучэнні з бясспрэчнай дамінацыяй рускай мовы, прывялі да таго, што беларусы захраслі ў расійскай Матрыцы настолькі моцна, што многія нават адмаўляюцца гэта прызнаваць. Больш за тое – досыць часта разнастайныя спробы абуджэння нацыянальнай свядомасці павадуюць праявы натрэніраванага стагоддзямі рэфлексу адмаўлення і пагардлівага стаўлення да іхніх ініцыятараў. Аднак метафарычны Карфаген у выглядзе шматвекавой залежнасці ад Масквы павінен быць зруйнаваны!

Пакуль што не ўсё яшчэ страчана ў посткаланіяльнай Беларусі. Красамоўны прыклад – вяртанне на ўзровень добраахвотнага масавага выкарыстання гістарычнай бела-чырвона-белай сімволікі. Нягледзячы на тое, што ўсходнія паліттэхнолагі спрабавалі навязаць людзям штучныя белыя стужачкі і сцяжкі, а заходнія арт-куратары прыклалі шмат намаганняў, каб раскруціць асобных прадстаўнікоў так званай парыжскай школы (сярод іншага, Х. Суціна з ягонай хваравітай “Евай” у якасці аднаго з пратэстных сімвалаў), народ адкінуў шалупінне ўбок і зрабіў свой выбар на карысць традыцыйнага герба “Пагоня” і нацыянальнага сцяга, шматразова асвечанага крывёй.

Тым не менш, расійская інфармацыйная дрыгва працягвае свой негатыўны ўплыў на свядомасць беларусаў, якім тэрмінова неабходна вучыцца супрацьстаяць маніпуляцыям і таму адмовіцца ад праглядаў перанасычаных прапагандай тэлеканалаў (як расійскіх, так і беларускіх, на якіх апошнім часам пачалі працаваць

тыя ж расійскія прапагандысты). Так што калі вы, напрыклад, схаваеце тэлевізар кудысьці падалей, або засяродзіцеся выключна на праглядзе адукацыйна-асветніцкіх праграм, а не заангажаваных навінаў, бязглуздых ток-шоў і рэлігійных пропаведзяў, гэта пойдзе толькі на карысць вашаму псіхічнаму здароўю.

Асобнай увагі заслугоўвае фільтрацыя інфармацыі ў Інтэрнэце, дзе тэрмінам "незалежныя СМІ" можна акрэсліць адзінкавыя выданні, не кажучы ўжо пра сацсеткі, дзе фэйкавыя навіны распаўсюджваюцца надзвычай хутка. Мноства ўмоўна апазіцыйных медый у сапраўднасці з'яўляюцца заангажаванымі і вядуць непрыхаваную агітацыю за асобных дзеячаў у адпаведнасці з сімпатыямі / антыпатыямі чальцоў рэдкалегіі або нават пэўных фінансавых датацый. Падчас гібрыднай вайны роля медый моцна ўзрастае, чым паспяхова і карыстаюцца махляры рознага кшталту.

Адным з красамоўных паказчыкаў гніласці сучасных палітычных дзеячаў з'яўляецца іх стаўленне да формаў узаемадзеяння з усходнім суседам. Калі вам у чарговы раз давядзецца ў публічнай прасторы назіраць праклямацыі пра братэрства са "старэйшым братам", неабходнасць захавання дзвюхмоўя на дзяржаўным узроўні, ваеннага звязу і іншых формаў паглыбленай інтэграцыі з Расіяй, не сумнявайцеся – перад вамі істота, якая дбае найперш не аб нашых нацыянальных інтарэсах, а аб тым, як у чарговы раз выслужыцца перад Крамлём і забяспечыць сабе ўтульнае месца пад іхнім парасонам.

Айчынныя прапагандысты працягла і адносна паспяхова карыстаюцца расійскімі шаблонамі ў маніпуляванні грамадскай свядомасцю, часта ўжываючы наўмыснае скажэнне фактаў і хлусню, разнастайныя пагрозы і перасцярогі, бясконцую рэтрансляцыю папулярных з савецкіх часоў міфаў, прыцягненне да супрацы штучных аўтарытэтаў і ліпавых экспертаў, прымітыўнае падсілкоўванне эмацыянальнай сферы і гульню на інстынктах.

Вядомы амерыканскі лінгвіст Навум Хомскі вылучаў наступныя спосабы маніпулявання масавай свядомасцю пры дапамозе СМІ:

1) Адцягванне ўвагі ад значных сацыяльных пытанняў і пераключэнне яго на другасныя з’явы;
2) Стварэнне новай або ўзмацненне старой праблемы, якая выклікае буйную рэакцыю, з наступнай прапановай яе вырашэння;
3) Павольнае і настойлівае ўкараненне непапулярных рашэнняў або ідэй;
4) Адтэрміноўка выканання непапулярнага рашэння і расцягванне яго ў часе, каб грамадзяне міжволі змірыліся з ягонай неабходнасцю;
5) Зварот да аўдыторыі з выкарыстаннем спрошчанай рыторыкі, што адпавядае дыялогу з малымі дзецьмі;
6) Пашыраная практыка ўздзеяння на эмоцыі, каб нівеляваць у людзей здольнасць да крытычнага мыслення;
7) Культываванне пасрэднасці і анамальнасці, пазіцыянаванне гэтага ў якасці “новай нармальнасці”;

8) Ухваленне і стымуляванне невуцтва на розных узроўнях;
9) Узмацненне ў масавай свядомасці пачуццяў віны і самаахвярнасці;
10) Збор і выкарыстанне індывідуалізаванай інфармацыі для кантролю над паводзінамі людзей.

Для таго, каб паменьшыць маніпулятыўнае ўздзеянне звонку, прытрымлівайцеся інфармацыйнай гігіены – ігнаруйце падпіску на дзяржаўныя СМІ і адпішыцеся ад інфа-рэсурсаў, якія не вытрымліваюць балансу меркаванняў і неахайна ставяцца да верыфікацыі фактаў. Стварайце ўласныя інфармацыйныя каналы ў мабільных прыкладаннях з высокай ступенню бяспекі ў працэсе перадачы дадзеных. І не грэбуйце архаічнымі сродкамі распаўсюджвання інфармацыі ў выглядзе самаробных ўлётак і брашур.

Асаблівая роля ў пратэстным руху адводзіцца кібер-партызанам, якія ўжо шматразова дэманстравалі свае выдатныя здольнасці па блакаванні сайтаў і выцягненні дадзеных з закрытых крыніц на карысць пацярпелых ад тыраніі.

Дэсакралізацыя ўлады павінна суправаджацца не толькі тыражыраваннем асобных недарэчных цытатаў яе прадстаўнікоў і прадуктаваннем камічных мемаў, але і (што значна больш важна) якаснай аналітыкай і стымуляваннем развіцця крытычнага мыслення ў грамадзян.

*II) Эканамічны супраціў.*

Адным з найбольш супярэчлівых пытанняў для пратэстоўцаў з’яўляецца ўдзел у забастоўках. Паводле Канстытуцыі РБ, людзі маюць на яе права для абароны сваіх эканамічных і сацыяльных, не палітычных інтарэсаў. У сваю чаргу, Працоўны Кодэкс вызначае забастоўку як часовую добраахвотную адмову поўнасцю або часткова выконваць свае працоўныя абавязкі з мэтай вырашэння калектыўнай працоўнай спрэчкі (Арт. 388) і патрабуе выканання шэрага фармальных патрабаванняў, без якіх такая форма пратэсту лічыцца незаконнай і прыводзіць да спагнанняў.

Відавочна, што не толькі паводле існуючага заканадаўства, але і здаровага сэнсу, калі забастоўка ахоплівае менш за дзве траціны працоўных, яна можа стаць неэфектыўнай, а таксама будзе суправаджацца штрафамі, звальненнямі, арыштамі і пераследам не толькі непасрэдных удзельнікаў, але і іх родных. Таму калі людзі не дэманструюць гатоўнасці да сапраўды ўсеагульнага страйку, лепш абраць іншыя варыянты: а) так званая італьянская забастоўка, калі праца вядзецца з празмерным выкананнем усіх магчымых інструкцый, стандартаў і бюракратычных нарматываў; б) польская забастоўка, калі праца наадварот выконваецца вельмі павольна і няякасна; в) японская забастоўка, якая прадугледжвае сімвалічнае выказванне нязгоды ў форме выкарыстання плакатаў з патрабаваннямі, калектыўнага ўжывання адзення загадзя вызначаных колераў або формы ў знак пратэсту і інш.; г) масавы часовы сыход з працы на бальнічны або ў адпачынак за свой кошт;

д) сабатаж – пашкоджанне прыладаў і сродкаў працы, што вядзе да яе спынення.

Неабходна таксама да апошняга моманту адцягваць ажыццяўленне аплаты камунальных паслуг, падаткаў і штрафаў. Поўнасцю ігнараваць гэтыя плацяжы, на жаль, не атрымаецца, аднак, максімальнае іх запавольванне стварае істотныя праблемы для функцыянавання Сістэмы.

Яшчэ адной са значных формаў уздзеяння на фінансавы падмурак рэпрэсіўнай машыны, з’яўляецца скарачэнне карыстання банкаўскімі паслугамі. Пастарайцеся максімальна вывесці свае грошы (асабліва валютныя назапашванні) з банкаўскай сістэмы або, прынамсі, захоўвайце іх у ячэйках, а не ў форме дэпазітаў. Як мага даўжэй выплочвайце пазыкі і не бярыце ніякіх новых крэдытаў. Імкніцеся ажыццяўляць абмен валюты і пераводы сродкаў з-за мяжы праз знаёмых, а не падсілкоўваючы пры гэтым банкі. Памятайце, што на бягучым этапе банкаўская сістэма Беларусі не гарантуе ні поўнай ананімнасці фінансавых аперацый, ні бяспекі захавання вашых грошай, якія, сярод іншага, могуць быць скарыстаныя на рэпрэсіі ў дачыненні да вас і вашых суродзічаў.

Яшчэ адным з фактараў ціску можа выступаць спажывецкі супраціў. Не набывайце прадукцыю тых вытворцаў, якія відавочна падсілкоўваюць рэжым, аддайце перавагу падтрымцы сумленнага і нацыянальна арынтаванага бізнесу. І зусім файна, калі ў дадатак да ўсяго вы яшчэ адмовіцеся хаця б на паўгады ад ужывання алкаголю і табаку – наш генафонд ад гэтага толькі выйграе.

*III) Палітычны супрацiў.*

Ва ўмовах акупацыі краіны бандыцкімі сіламі і ўзурпацыі сістэмы кіравання несумленнымі палітыкамі адной з тыповых формаў супрацiву з’яўляецца абсэнтэізм, або ўхіленне грамадзян ад удзелу ў праўладных мерапрыемствах і акцыях, якія скіраваныя на падтрымку нелігітымнай улады. Такім чынам людзі дэманструюць сваю нязгоду з існуючым становішчам і недавер да тых, хто непасрэдна спрычыніўся да ягонага ўзнікнення.

Існуе процьма масавых мерапрыемстваў (сходы, з’езды, парады, фестывалі, спаборніцтвы, конкурсы, суботнікі і г.д.), скіраваных на ідэалагічнае абслугоўванне рэжыму. Ад удзелу ў гэтым “цырку на дроце” неабходна катэгарычна адмаўляцца і ўсяляк пазбягаць, выкарыстоўваючы любыя нагоды і тлумачэнні. Гэта ж датычыць і знаходжання ў праўладных грамадскіх структурах у якасці чальца, бо такім чынам вы ўскосна падтрымліваеце і маўкліва ўхваляеце тое бяспраўе, што адбываецца навокал.

Зразумела, што людзей прымушаюць прысутнічаць на такіх імпрэзах або падпісваць адмысловыя звароты і рабіць прызнанні пад пагрозай пазбаўлення прэмій, звальнення ці нават катавання, але ж задумайцеся: ці вартыя вашая мізэрная прэмія і гаротная праца заплямленага назаўжды сумлення? Ці апраўданы ваш страх перад часовымі цяжкасцямі ў суаднясенні з немагчымасцю годнага жыцця і няспыннага гвалту над вашымі блізкімі і роднымі?

Бадай, найбольш спрэчным для сучасных актывістаў выступае пытанне байкоту выбараў. Па-першае, трэба адзначыць, што пад байкотам прэзідэнцкіх выбараў трэба разумець найперш байкатаванне ўдзелу ў іх з боку саміх кандыдатаў, а не толькі выбарцаў. Па-другое, сцэнарыі байкоту ў поўнай меры ніколі не рэалізоўваліся ў Беларусі не столькі таму, што заўсёды знаходзіўся кантынгент, гатовы пайсці на выбарчыя ўчасткі, колькі з-за немагчымасці апазіцыйных кандыдатаў дамовіцца паміж сабой і аб’яднацца дзеля рэалізацыі адзінай стратэгіі. Больш за тое – галасы, аддадзеныя за апазіцыйных кандыдатаў, пры існуючай ганебнай сістэме лёгка перакідваюцца на карысць “усенароднга абранага”. Таму дзесяцігоддзямі і  практыкаваліся прымус да датэрміновага галасавання, укіды бюлетэняў і адпраўкі “карусельшчыкаў”, бо адсутнасць выбарцаў на ўчастках патэнцыйна ствараль для ўлады значна большую праблему, чым рэальныя паказчыкі галасавання. Нават падчас апошніх выбараў у Беларусі, вынік якіх не выклікае даверу і не можа лічыцца аб’ектыўным з-за шматлікіх сістэмных фальсіфікацый, так званыя новыя лідары па-сутнасці выканалі ролю спарынг-партнёраў, забяспечыўшы высокую яўку і зацягнуўшы людзей да ўдзелу ў бязглуздым маскарадзе на карысць узурпатара.

Як можна сцвярджаць, што байкот неэфектыўны, калі яго насамрэч ніколі не было? Зараз можна сцвярджаць толькі тое, чаму ўсе мы былі сведкамі, - масавы забег на ўчасткі з мэтай падтрымкі

тых ці іншых пратэстных кандыдатаў, выявіў сваю поўную бездапаможнасць перад выбарчай сістэмай ва ўмовах дыктатуры.

Сітуацыя ўскладняецца яшчэ і тым, што на выбарах у мясцовыя Саветы, у адрозненні ад прэзідэнцкіх, скасаваны парог яўкі, што фармальна дазваляе прызнаць іх дзейснымі нават у выпадку, калі на ўчасткі прыйдзе зусім невялікая колькасць выбарцаў. У такім становішчы звычайны байкот спрацаваць не зможа, неабходна тэрмінова выпрацаваць цалкам новую стратэгію дзеянняў, асабліва з улікам меркаванага сумяшчэння выбараў з чарговым рэферэндумам наконт змяненняў у Канстытуцыю.

Так ці інакш, памятайце, што ніхто не мае права прымушаць вас да ўдзелу ў выбарах (асабліва датэрмінова), гэтак жа, як і забараняць удзельнічаць у іх. Адзінае, што дакладна нельга рабіць, – спрыяць несправядліваму падліку галасоў і падпісваць пратаколы выбарчых камісій, якія змяшчаюць фіктыўныя лічбы. Тыя, хто так робіць, – злачынцы, незалежна ад таго, ці свядома яны ўдзельнічалі ў працэсе фальсіфікацый, ці пад прымусам. Адначасова неабходна ўсяляк далучацца да ўдзелу ў назіранні за выбарамі, якімі б яны не былі. Гэта патрэбна, каб сабраць шматлікія факты парушэнняў і дамагацца дэлігітымізацыі на міжнародным узроўні.

Пытанне люстрацыі ў дачыненні да непасрэдных паслугачоў рэжыму і калабарантаў перыядычна ўзнімаецца ў публічнай сферы, бо выступае часткай этычнага кодэксу ў змаганні за справядлівасць.

Ці варта прадастаўляць узурпатарам і бандытам “зялёны калідор”  для мірнага сыходу? Тут, як нам падаецца, назіраецца нонсенс – нельга заклікаць да пабудовы прававой дзяржавы адначасова з пазбаўленнем ад прававой адказнасці нейкай абранай супольнасці асобаў. Бо як казалі яшчэ ў старажытным Рыме, “Dura lex, sed lex” (закон суворы, але гэта закон, які павінен выконвацца).

Заходзячы з гэтага, неабходна дэталёва збіраць і сістэматызаваць інфармацыю, якая датычыць правапарушэнняў з боку кіраўнікоў самага рознага ўзроўня, а таксама абсалютна ўсіх без выключэння прадстаўнікоў сілавых структур, якія працавалі на карысць Сістэмы пасля 2000 года. Менавіта перакананасць у тым, што ў будучыні можна пазбегнуць адказнасці, і дазваляе ім працягваць здзяйсняць злачынствы і спаць спакойна пасля. Ніякія заклікі да сумлення тут больш не спрацуюць – час на тое, каб перагледзець свае погляды, прамінуў, цяпер іх мусяць чакаць толькі жорсткія меры пакарання і адпаведная закону адплата.

Сацыяльным сімвалам найноўшага часу павінна стаць адказнасць. Адказнасць улады перад народам, адказнасць народа за ўмовы свайго існавання і ліміт цярплівасці, адказнасць кожнага за ўласныя ўчынкі, за жыццё і годнасць сваіх родных і блізкіх.

Перамены прыйдуць не так хутка і лёгка, як хацелася б тым, хто любіць глядзець на свет праз ружовыя акуляры і разводзіць дэмагогію, але крах дыктатуры і вызваленне з-пад акупацыйнага прыгнёту – непазбежныя. Таму “захоўвайце спакой і вастрыце косы”, як казаў Кастусь Каліноўскі. І не спыняйма барацьбу!

***

Я выходжу.

Ты выходзіш?

Гэй, народзе!

МЫ ВЫХОДЗІМ!

Чорт вусаты

Хай сыходзіць

Гніць на Ўсходзе.

ГВАЛТУ ГОДЗЕ!

Каб прачнуцца

На свабодзе,

Я выходжу.

МЫ ВЫХОДЗІМ!

# ПАДРУЧНІК ПАРТЫЗАНКІ



ISBN 978-163848576-6




---

Тэкст і фота – Ірына Хадарэнка